

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 45 (533)** **14 ЛІСТАПАДА 2001 г.**


## Кірыла Тураўскі прыйшоў у БДУ



30 кастрычніка, у дзень святкавання 80-годдзя БДУ ва універсітэцкім дворыку быў адкрыты помнік беларускаму асветніку Кірылу Тураўскаму. На ўрачыстай цырымоніі прысутнічаў міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Пётр Брыгадзін.

**На здымку:** помнік Кірылу Тураўскаму.
**Фота Мікалая Пятрова, БелТА.**

---

"6" лістапада 2001 г.
№ 542.

**Спадару Віктару Шэйману,**
**Генеральнаму пракурору**
**Рэспублікі Беларусь.**
# 22, Інтэрнацыянальная,
220050, г. Менск ГСП.

Паважаны Віктар Уладзіміравіч!

Апошнім часам, у сувязі з пашырэннеем Менскай кальцавой аўтамабільнай дарогі, значна ўзрасла грамадская цікавасць да праблемы пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты.

Высновы следства па расследаванні злачынстваў у Крапатах, якое правяла ў 1988 – 1989 гг. Пракуратура БССР пад кіраўніцтвам Г.Тарнаўскага, былі даведзеныя да грамадскасці. Такім жа чынам у рэспубліканскім друку ў 1995 годзе ўзгадаваліся высновы аналагічнага следства, якое праводзілася старэйшым следчым па асабліва важных справах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь сп. Камароўскім.

У 1997-1999 г.г. па вядомых матэрыялах старэйшым памочнікам Вайсковага пракурора сп. Сомавым зноў праводзілася праца па расследванні трагедыі ў Курапатах. Афіцыйная інфармацыя па выніках расследвання не была абнародавана.

Разам з тым, у газеце "Славянскі набат" ад 6-12.05.1999 (№17) у артыкуле "Курапаты, Косово... Провокации продолжаются" сп. Валянцін Корзун прыводзіць фрагменты матэрыялаў следства, якое праводзіў сп. Сомаў. З фактаў з'яўлення самога артыкула, а таксама прыведзеных у ім матэрыялаў можна зрабіць выснову, што вынікі расследавання сп. Сомава не змяшчаюць ні дзяржаўнай, ні іншай ахоўванай законам таямніцы.

У сувязі з выкладзеным, на аснове арт. 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, кіруючыся Законам Рэспублікі Беларусь "Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь" (п.5, арт.4; п. 1, арт. 22) просім Вас давесці праз дзяржаўныя СМІ да ведама грамадскасці асноўныя вынікі працы, зробленай старэйшым памочнікам Вайсковага пракурора сп. Срмавым у красавіку 1999 года.

Аб Вашым вырашэнні просім паведаміць нам пісьмова.

Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава 13.

З павагай, Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"

*Алег Трусаў.*

---

# Два гады – таксама юбілей

Радыё "Рацыя" – адзін з нямногіх беларускамоўных СМІ, што складаюць інфармацыйную прастору незалежнай Беларусі. Гэта сапраўды першае беларускае радыё будучага. Запачаткаванае ў мінулым стагоддзі, за два гады "Рацыя" стала папулярнай ва ўсёй краіне і за яе межамі. Гэтаму шмат у чым спрыяе праця традыцый радыё "101,2", што палюбілася ўсім і ў свой час было неабгрунтавана зачынена.



**"Рацыя"** – гэта ў межах магчымага шырокая інфармацыйная палітра палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця нашай краіны.

**"Рацыя"** – гэта беларускае радыё для беларусаў.

**"Рацыя"** – гэта адпачынак для душы.

**"Рацыя"** – гэта калектыў прафесіяналаў, якія не толькі добра ведаюць сваю справу, але яшчэ і любяць Беларусь.

Шырокай і вялікай Вам аўдыторыі слухачоў, шчаслівай будучыні!

*З павагай Сташыня*
*ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны"*
*Алег Трусаў.*

---

## Выстава на сядзібе ТБМ

**Шаноўнае спадарства! Запрашаем Вас наведаць найбуйнейшую ў Менску выставу рэдкіх і новых кніг, часопісаў, календароў, аўдыё- і відэакасетаў, CD, значак і шмат чаго яшчэ...**

**Выстава месціцца на сядзібе ТБМ у Менску (вул. Румянцава 13, ст. м. Пл. Перамогі, ля Лінгвістычнага універсітэта). Працуе штодня з 12.00 да 19.00, апроч суботы і нядзелі. У суботу частку кніг і касетаў можна набыць на кірмашы ў выставачным комплксе "Белэкспа" (10.00 – 17.00), а ў нядзелю ў ДК МТЗ (ст. м. Трактарны завод, 9.30 – 14.00).**

---

# ВЫКЛАДЧЫКАМ БЕЛАРУСКІХ ЛІЦЭЙСКІХ КЛАСАЎ НЕ ВЫПЛОЧВАЕЦЦА ЗАРОБАК

Выкладчыкам Беларускіх гуманітарных ліцэйскіх класаў (БГЛК) у горадзе Светлагорску (Гомельская вобласць) не налічваецца плата.

11 верасня гэтага года загадчыца Аддзела адукацыі выканаўчага камітэта горада Светлагорска І. В. Філіповіч абвесціла загад аб расфармаванні філіі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа (першай у горадзе ўстановы адукацыі новага тыпу, якая была заснавана ў 1993 годзе). Паводле загаду, усе выкладчыкі і навучэнцы філіі пераводзіліся ў ліцэйскія класы адной з сярэдніх школ. Загад абгрунтоўваўся тым, што ў выніку змяненняў у рэспубліканскай нарматыўнай дакументацыі, ліцэі з гэтага навучальнага года не могуць мець філіялаў.

Загад выклікаў незгоду работнікаў навучальнай установы, а таксама навучэнцаў і іх бацькоў, якія лічылі, што падобная рэарганізацыя ў час навучальнага года непазбежна прывядзе да праблем ў нармальнай працы. Некалькі тыдняў супрацоўнікі і навучэнцы адстойвалі захаванне свайго калектыву. У рэшце рэшт выкладчыкі і навучэнцы далі згоду ўвайсці з 1 кастрычніка ў склад адной з сярэдніх школ пры ўмове стварэння творчага калектыву Беларускіх гуманітарных ліцэйскіх класаў. І хоць занятк і ў філіі ліцэя ўвесь верасень працягваліся без перапынку, заробак за другую палову верасня Аддзел адукацыі выкладчыкам не выплаціў.

І вось выкладчыкі адпрацавалі ўвесь кастрычнік цяпер ужо ў ліцэйскіх класах. 8 лістапада ў першы дзень другой навучальнай чвэрці педагогі атрымалі разліковыя лісткі, у якіх указана, што заработная плата за кастрычнік ім не налічваецца. У чым прычына такой сітуацыі? Як аказалася, гарадскі Аддзел адукацыі своечасова не прадставіў на зацвярджанне ў Міністэрства адукацыі навучальныя планы для новастворанных ліцэйскіх класаў. А пры адсутнасці зацверджаных планаў цэнтральная бухгалтэрыя Аддзела адукацыі не можа выканаць разлік заработнай платы.

Перад пачаткам навучальнага году, калі выкладчыкі пачыналі працу яшчэ ў філіі ліцэя, навучальныя планы, як і належыць, былі прадастаўлены ў Міністэрства кіраўніцтвам ліцэя і своечасова зацверджаныя. Па гэтых навучальных планах выкладчыкі і атрымлівалі заробак да 16 верасня – пакуль дзейнічала філія. Ёсць гэтыя навучальныя планы і цяпер. Аднак гэтыя планы неабходна паўторна зацвердзіць у Міністэрстве (каб яны дзейнічалі для новых ліцэйскіх класаў), што з'яўляецца цяпер кампетэнцыяй гарадскога Аддзела адукацыі.

*(Прэс-рэліз Творчага аб'яднання Беларускіх гуманітарных ліцэйскіх класаў.)*

---





## Дзве мовы для адной дзяржавы – добра ці кепска?

***Афіцыйнае двухмоўе – гэта добра ці дрэнна для нацыі, для дзяржавы? Здаецца, што адмоўнага ў тым, калі ў дэмакратычным грамадстве канстытуцыяй забяспечваецца абарона мовы меншасцяў. Усе маюць роўныя правы і магчымасці. Але што ў гэтым станоўчага?***

Грэгары Бойд Бэл, пісьменнік і рэдактар з Таронта (Канада), сцвярджае, шо афіцыйнае дзвюхмоўе часта прыводзіць да дэфармацыі ўлады, спыняе развіццё эканомікі, стымулюе нацыянальны раскол. У якасці прыкладу ён прыводзіць досвед Канады і ЗША.

На пацягу ўжо 32 гадоў канадцы афіцыйна размаўляюць на ангельскай і французскай мовах. Вынікам гэтага сёння з'яўляецца народжаная ў іх жа асяроддзі ідэя адной дзяржаўнай мовы. Цікава, што паслужыла прычынай такога заключэння? Грэгары Бойд Бэл прыводзіць наступныя доказы.

У Канадзе дзвюхмоўе практычна існуе толькі ў месцах, звязаных з федэральнай уладай (аэрапорты, дзяржаўная мяжа, сталіца Атава). Па-за іх межамі дамінальнай з'яўляецца ангельская (акрамя французскамоўных Квебэка, Нью Брансуіка, Антарыя і Манітобы).

Адчуваецца ўздзеянне і на эканоміку. Установы грамадскага абслугоўвання сутыкнуліся з недахопам кадраў, добра падрыхтаваных у дзвюх дзяржаўных мовах. Дорага каштаваў гэты працэс і для прамысловасці, акрамя хіба ўпаковачнай, якая з выгадай перапакоўвала тавары амерыканскага імпарту.

Натуральным з'яўляецца імкненне Квебэка да незалежнасці, што ў выніку толькі паглыбіць раз'яднанасць федэральнай дзяржавы.

Падобнае, праўда ангельска-іспанскае становішча, назіраецца ў ЗША, адно – дзвюхмоўе не афіцыйнае. Аднак ідэя прадастаўлення ўсё больш шматлікай колькасці іспанскіх меншасцяў роўных моўных правоў з амерыканцамі з'яўляецца хіба што выйгрышным ходам у перадвыбарнай барацьбе. Прыкладам гэтага можа быць выступленне Джорджа У. Буша 5 траўня па радыё часткова на іспанскай мове.

І яшчэ адзін станоўчы момант: лягчэй кіраваць дзяржавай калі забяспечыць меншасцям рэлігійныя свабоды і моўныя правы. Вось таму і павялічваецца ў Амерыцы колькасць іспанскамоўных газет (34 у 2001 у параўнанні з 14 у 1990), двухмоўнай становіцца адукацыя. Хаця трэба заўважыць, што вынікі тэстаў сведчаць аб тым, што вучні маюць лепшыя перспектывы, калі навучаюцца на мове большасці.

Сам Грэгары Бойд Бэл расцэньвае факт афіцыйнага дзвюхмоўя, як стварэнне "цяплічных" умоў для развіцця мовы меншасцяў, штучна "абараняючы" іх ад навакольнай культуры.

Як пацвярджэнне гэтай думкі магу прывесці прыклады з асабістага досведу, калі я працавала ў ЗША. Вядома, што мексіканцы часта нелегальна прыходзяць у Амерыку ў пошуках лепшых заробкаў. У асноўным яны асядаюць у паўднёвых штатах, але мне давялося сустрэць некалькі з іх і ў паўночным штаце Агаё. Працавалі яны на іпадроме "Шэсць сцягоў" ("Six Tlags"). Трэба сказаць, што на іпадроме людзі жылі ў сваім свеце, з асабістым падыходам да іншых, з адметнымі каштоўнасцямі. Таму становіцца зразумелым, што не размаўляй мексіканцы, рускія, беларусы, амерыканцы на адной ангельскай мове, не складалі б яны непадзельнае цэлае, якое было так патрэбна для агульнай справы.

Так яно, напэўна, і для нацыі трэба, каб інтэграцыя культур адбывалася (у станоўчым сэнсе гэтага слова). Прыязджаюць імігранты са сваёй мовай, традыцыяй, каштоўнасцямі, але праз адзіную мову яны "ўліваюцца" ў асноўную культуру, узбагачаючы яе. У выніку атрымоўваецца адзіная непадзельная нацыя.

Ведаю, што калі вы чыталі гэтыя разважанні пра Канаду і ЗША, не магла не прамільгнуць у вас думка пра нашу сённяшнюю Беларусь. І зноў мне хочацца задацца пытаннем: "Дык што добрага ў афіцыйным дзвюхмоўі?" На маю думку, куды лепш, прасцей, эканомней, калі на беларускіх землях, дзе жывуць у большасці сваёй беларусы, яны жывуць з беларускай культурай і мовай, сваёй беларускай – адзінай дзяржаўнай.

І калі ўжо ў Канадзе ставяць пытанне пра афіцыйнае аднамоўе, дзе і ангельская, і французская мова – мовы пасяленцаў, то што тут ужо казаць пра Беларусь, дзе карэнныя жыхары, за выключэннем эміграцыйных хваляў і прымусовых высяленняў, не пакідалі сваю зямлю, а прымаючы мовы меншасцяў не павінны былі саступаць ім месца ў дзяржаўных справах. Такой думкі прытрымліваюцца як раз студэнты–лінгвісты, якія, дарэчы, ведаюць не адну мову.

*Ірына Хаданёнак, студ. МДЛУ, сябра суполкі ТБМ.*

*З жывой народнай крыніцы*

# "ДЗЕ АЛАДКА, ТАМ І ГРАМАДКА"

## (найменні бліноў у побыце беларусаў)

Бліны ўзніклі тады, калі чалавек навучыўся малоць зерне на муку. Пра гэта сведчыць этымалогія самога слова ***блін***. Першапачаткова было ***мълинь*** ад праславянскага ***melti 'малоць'***, з даслоўным значэннем 'прыгатаванне з молатага, мукі'. Дарэчы і сёння ў беларускай дыялектнай і некаторых іншых славянскіх мовах бытуюць формы з пачатковым гукам ***м***.

Бліны займаюць прамежкавае становішча паміж вырабамі з прэснага і кіслага цеста, адрозніваюцца меншымі памерамі, таму гатуюцца значна хутчэй, што паспрыяла іх шырокаму распаўсюджанню. Даследчыца матэрыяльнай культуры беларусаў Л. А. Малчанава падкрэслівае, што "пра старажытнасць гэтай стравы сведчаць старажытнарускія летапісы і аднолькавы ў усіх славянскіх народаў спосаб яе прыгатавання". Бліны – не толькі традыцыйная славянская, але і міфалагічна рытуалізаваная страва. Нашымі продкамі круглая форма асацыявалася з сонцам, таму бліны сталі салярным сімвалам, семантычна звязаным з культам Ярылы – бога сонца і жыцця, урадлівасці, што перадвызначала сувязь бліна-сімвала з пэўнымі каляндарнымі днямі (масленіца, каляды). Сакральнасць бліноў ва ўяўленнях славянаў паслужыла набыццю імі статусу святочнай стравы.

Дзякуючы хуткаму прыгатаванню і вялікай энергетычнай каштоўнасці, бліны гатаваліся амаль кожную раніцу. Яны сталі такой абавязковай стравай, што этнограф XIX ст М. Я. Нікіфароўскі адзначыў: "Паводле роду бліноў можна вызначыць дабрабыт сям'і. Калі гатуюцца жытнія – чакаюць прыезд блізкіх сваякоў, ячменныя – учора былі іншыя, пшанічныя – памінкі, грэцкія – масленіца, аўсяныя, рашчыненыя звечару, - звыклая сямейная плынь жыцця; рашчыненыя раніцай з поснага цеста – нечаканасць, хвароба". У свядомасці гарадзенцаў дабрабыт людзей вымяраецца таксама спажываннем бліноў: ***"У Нясвіжы людзі хіжы, салому таўкуць, бліны пякуць, сена смажаць, бліны мажуць".***

Наша задача ёсць паказаць багацце найменняў бліноў на Гарадзеншчыне. Не зважаючы на супольны ў славянаў спосаб прыгатавання стравы, у моўным матэрыяле беларусаў зафіксаваны пэўныя адметнасці ў залежнасці ад гатунку мукі, вонкавага выгляду і спосабу спажывання бліноў.

Пра блін у "Тлумачальным слоўніку" можна прачытаць: ***"Мучны выраб з рэдкага цеста, спечаны на скавародзе".*** У дыялектнай мове адбылося пашырэнне значэння, як вынік павелічэння прадметна-паняццевай суаднесенасці слова, таму яго семантыка стала больш агульнай, страціла розныя відавыя адценні, канкрэтныя прыметы: у народнай мове блін можа абазначаць мучное і бульбяное печыва, вялікае і малое, тонкае і тоўстае, з рэдкага ці густога цеста). Аднак, неабходнасць вылучэння некаторых адзнакаў для размежавання асобных страваў яскрава ўсведамляецца ў мове. Таму ўзніклі найменні з больш канкрэтным значэннем.

Значэнне **'тонкі'**, як характарыстыка печыва ўваходзіць у склад семантыкі слова ***блін*** або менш распаўсюджанага ***наліснік (налеснік)***. Паводле этымалогіі Даля гэта аднаназоўнікавае ўтварэнне ад ліст як *'ад бліноў, якія пякліся на капустных лістах'*. Магчыма, што сучаснае значэнне *'вельмі тонкі блін з пшанічнай мукі'* ўзнікла пад уплывам празрыстай структуры, як вынік народнай этымалогіі *'падобны на ліст'*. Гэта страва валодае адметнасцю ў прыгатаванні: ў наліснікі загортваюць тварог, мак, ягады, мёд, варэнне, скваркі або фарш. Часам гатуюць без начынкі, тады складваюць учатыры і залліваюць смятанай. Аднак, у народна-гутарковай мове адбываюцца змены, як у значэнні (*"Напякла наліснікаў, паелі з маслам"* (г.зн.без начынкі), так і структуры (фанетычны варыянт ***наляснік*** *'тонкая аладка'*).

Акрамя тонкіх (ценькіх бліноў) на Гарадзеншчыне адрозніваюць ***падыходныя 'падыходзістыя, пухныя'***. ***Падыходныя бліны*** на кіслым малацэ і содзе. Гэта аддзеяслоўнае ўтварэнне ўзнікла паводле спосабу прыгатавання цеста, якое падыходзіць 'пачынае кіснуць'. Для абазначэння такога віду бліноў на Гарадзеншчыне служыць цэлы шэраг найменняў, найбольш распаўсюджанае сярод якіх – ***аладка***. Утворнае ад грэцкага пазычання ***eladion 'алей'***, яно служыла для абазначэння ***'спечанага на алеі'***. Сёння ж набыло значэнне *'невялікі тоўсты мучны або бульбяны блін, спечаны на патэльні'*. П.У.Сцяцко класіфікуе ўтварэнне, як уласна беларускае. Аб шырокім бытаванні, як самой рэаліі, так і згаданай назвы сведчыць яе фіксацыя ў гарадзенскіх прыказках: *"Чакайце аладак, зяць паехаў пшаніцу сеяць. Дзе чарка і аладка, там і грамадка"*. У выпадку паралельнага ўжывання ***аладка – блін*** у гаворцы ўтвараецца апазіцыя па прыкмеце *'малы – вялікі'*, радзей *'тоўсты – тонкі'* або *'салодкі – несалодкі'*. На Гарадзеншчынен распаўсюджана найменне ў форме ***агладкі***. *"Помню, маці напячэ агладак з рошчыны, кіславыя такія, і мы ямо"*. "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы" падае як кантамінацыйнае ўтварэнне з ***аладка*** і ***глытаць*** ці ***гладкі***. Нам падаецца больш верагодным апошняе, як развіццё народнай этымалогіі.

Таўшчыня бліна падкрэсліваецца і наступнымі найменнямі. ***Калабы*** *мн. 'бліны'. "Напякла калабоў, пашла на работу"*. Найменне мае рускія адпаведнікі: ***колоб*** *'шар, калабок, круглы хлеб', 'калабуха, галушка', колобан 'тоўстая ляпёшка'*. Нават у выніку пазычання адбылося семантычнае асваенне лексемы, за якой замацавалася адметнае значэнне.

***Пуздрыкі*** *мн. 'аладкі, спечаныя з толькі што замешанага хлебнага цеста'. "Маці, як хлеб месіць, то напячэ нам пуздрыкаў, яны такія наздраватыя, смашныя нам здаваліся"*. Утворана паводле прадукцыйнага для назваў бліноў спосабу ўтварэння з суфіксам ***–ік-(-ык-)***. Наконт утваральнай асновы могуць быць розныя меркаванні. У выпадку метафарызацыі можна дапусціць утварэнне ад назоўніка ***пуздра*** (руск. дыял. ***'частка бруха'***, ***'пузаты чалавек'***). Можна бачыць сувязь па-водле вонкавага выгляду з ***наздраваты + пухлы,*** як вынік кантамінацыі.

Пазычанні ***пампушкі*** з нямецкага ***Pfannkuchen*** *'блін'* праз польскую мову і ***чыбрыкі*** з мангольскай мовы ***celbeg*** *'ляпёшка'* праз расейскую на Гарадзеншчыне набылі дадатковую прыкмету *'тоўсты, пухлы'*. Пампушкі *'пухлыя мучныя аладкі, спечаныя з драджавога цеста або з замешанага на содзе і кіслым малацэ'*. Пяклі пампушкі з цеста з тоўчанай варанай бульбы і мукі. Чыбрыкі *'мучныя бліны'. "Напяку чыбрыкаў, хай ядуць з маслам"*.

Акрамя "падыходзістых" адрозніваюць яшчэ ***тоўстыя бліны***. На Астравеччыне за найменнем ***грубы блін*** замацавалася значэнне *'тоўсты бульбяны блін, бабка'*. *"Як малая была, дык па барознах самую вялікую бульбу хадзіла збірала, усё казала – на грубы блін..."*

Тоўстыя бліны можна лічыць асобным відам выпечкі. У такім значэнні найменне ***блін*** часта надаецца хлебным вырабам, выпечаным на агні, патэльні або чарэні, з прэснага ці "утворнага" (г.зн.кіслага, але яшчэ не падышоўшага) цеста. Для абазначэння такой выпечкі служаць найменні: ***скавароднік, перадпаломнік, перапечка, падпалак, паляніца, выхапень, сачэнь*** (гэты від выпечкі тут разглядацца не будзе, бо паводле прыгатавання – яны бліжэйшыя да хлеба).

Бліны маюць сваю спецыфіку і ў спосабе спажывання. Іх ядуць гарачымі і звычайна з нейкім дадаткам, што стала падставай утварэння рэгіянальных назваў. ***Мачонік*** *'блін'* – аддзеепрыметнікавае ўтварэнне ад ***мачаць***. У іншых гаворках Беларусі мае значэнні *'мочаны яблык'*, мн. *'мочаныя грыбы'*, ж. *'скарынка хлеба, размочаная ў страве'*. Такія бліны спажываюць, мачаючы ў нейкі дадатак – смятану, масла, смажаныя скваркі, верашчаку, якая на Гарадзеншчыне мае назву ***мачанне, мачанка, мачайла, мачака***. Такім чынам, бліны можна лічыць традыцыйнай двухкампанентавай стравай.

***Саўгач*** *'блін'. "Мама падала нам на стол саўгачы з маслам"*. Параўнай дыялектнае ***саўгануць*** *экспр. 'штурхнуць'*, ***соўгацца*** *'перамяшчацца'*, ***соўгаць*** *'габляваць, цягаць'* – аддеяслоўнае ўтварэнне ад з суфіксам ***–ач-*** паводле спосабу спажывання.

Гатунак мукі ў назве бліноў не мае істотнай ролі. Паводле гэтай прыметы ўтворана толькі найменне ***грачанікі*** *'выраб з грэцкай мукі'. "З рэдкага цеста пяклі бліны, грачанікі, змазвалі тоўчаным канапляным семем"*. Адбылося сцяжэнне аналітычнай назвы ***грачаныя бліны (блінкі)***, вытворнай ў сваю чаргу ад назоўніка ***грэчка***. Такім чынам назва зерня паслужыла асновай матывацыі стравы.

Вялікая разнастайнасць бліноў узнікла дзякуючы дабаўленню розных дамешак: ***пырнік*** *'аладка з тварагом'. "Пырнікі ў нас пяклі па вялікіх святах."* Можна дапусціць кантамінацыю ад ***сырнік*** і ***пухлы*** (або ***пернік***).

***Цыганы*** *мн. 'крывяныя бліны'. "Цыганы пяклі з крыві і картошкі"*. Лексема ў некаторых гаворках выкарыстоўваецца для абазначэння гатунку бульбы або варанай бульбы (як вынік метафарычнага пераасэнсавання). Зборнасць стравы (вялікая колькасць бульбін) і гатунак бульбы больш цёмнага колеру паслужылі падставай паралелі з народам пад аналагічнай назвай. Вельмі цікавы выпадак нетыповага развіцця семантыкі. Звычайна адбываецца перанос у кірунку ***страва >чалавек***, а не адварот (напрыклад, ***ляпняк, сухар***).

***Жана Буглак,***
***аспірантка ГрДзУ.***





Алесь Петрашкевіч

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ ПА-БЕЛАРУСКУ

## (Сатырычная камедыя)

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**ІВАН.** Правільно.

**ЯНКЕЛЬ** *(разублена).* Мы любую трубу можам прыварыць, але навошта ж дамаўляцца пры зачыненых дзвярах ды яшчэ пад наглядам Янкі?

**АХМЕТ.** Іншыя вунь цэлыя фабрыкі і заводы крадуць, а вы з намі жартуеце...

**ІВАН.** "Жартую"?! Это вы со мной "жартавалі". А я человек серьезный, и вы меня задели! Ты, Тарас Тарасавич, неотложно, как в условиях чрезвычайного положения, ищешь соответствующие трубы, а я даю бульдозер и сварщиков и мы тянем подземный спиртопровод от завода до Ахметового "комка".

**АХМЕТ** *(узнімае рукі).* Валлаг Усявышні! Мен разы дегілім. Не згодзен! Што я буду рабіць з вашым спіртаправодам. У мяне ж ні плошчы для разліву, ні шклатары... А браткі-беларусы не ўсе яшчэ глуханямыя.

**ТАРАС.** Не пары гарачку, Іван! І не тарапісь да капіталізму, бо можаш трапіць у "Мінскую цішыню" на Урыцкага яшчэ да путчу. Ахмет мае рацыю, бо ў яво з Янкелем, як мне здаецца, усё добра накатана і дае гаранціраваны навар, хоць і не очань вялікі.

**ЮЗАФ.** І я сваё ад навару, проша пана, не хацеў бы губляць.

**ТАРАС.** Вось бачыш?.. А таму няхай пака ўсё застаецца як было. Але Янкель замяняет поўдзюймовы пысюнчык на добры пысюн і ставіць на яго заглушку ад пажарнай кішкі. Мы ж з табою, Іване, купляем стары аўтагаўнавоз і ён будзе састыкоўваць тую кішку з кранам і адпампоўваць спірт бы тое золата. Не хітра, не заметна і не дорага.

**ІВАН.** Интересная мысль.

**ТАРАС.** Шоферам гаўнавоза, даруйце, спіртавоза прызначаем того ж сантэхніка Янкеля.

**ІВАН.** Разумно. Смело! Делово! Принимается консенсусом.

**ЯНКЕЛЬ.** Во ўжо сапраўды: што габрэю – капут, то рускаму – шчасце...

**АХМЕТ.** Што труба, што гаўнавоз не гадзяцца. Нямко ўсё роўна столькі гары не збярэ. І этыкеткі – па сто за штуку!. *(Катэгарычна).* Ёкъ! Ёкъ! Мен разы дегілім!

**ІВАН.** Дети! Ей богу, несмышленые дети!.. Вас не только в капитализм, вас в социализм возвращать нельзя. Никакой инициативы! Никакой творческой фантазии, никакого нового перестроечного мышления! Развиваю мысль... Ты, реб Янкель, меняешь трубу на пожарную кишку. Тарас Тарасович покупает гавновоз. я приватизирую ресторан "Аврора". Там, в подвале, развертываем печатный цех этикеток и цех разлива с транспортёром прямо в зал питейного заведения. А в последующем возьмём траншы, кредиты, инвестиции, дотации, создадим филиалы, абшорную зону, тресты, синдикаты и кортели...

**ТАРАС** *(як пры азарэнні).* Слухай!!! А мо лепш прыватызаваць спіртзавод і не паскудзіцца з гаўнавозам і з інвестыцыямі?!

**ІВАН.** У вас что, все такие дебильные в пожарной академии?.. Приватизировать завод, чтобы красть у самих себя. Это же тебе не при развитом социализме!.. Ни при советской власти!..

**ТАРАС.** І нічога такога. Кралі мы ў себя семдзесят гадкоў без перадыху і не плоха жылі. *(Злуецца).* У канцы канцоў, махвія мы чы не махвія?!

**АХМЕТ.** Делілар ідыёты! Яланджы явур! Не будзе вам раю – санъа дженнет олмаз...

**ІВАН.** Стоп! Стоп! Стоп! Это уже не для печати, не для трансляции и я тоже настаиваю на закрытом заседании при ограниченном круге участников. Микрофоны отключить, прессу и публику удалить!

**ТАРАС.** Эта тычыцца зладзюг і рэкіціра. Так што ўсе гэць да хаты. Прыйдзе час – пазавём. Наглядальнікам пры перамовах з правам дарадчага голасу акрэдэтую толькі спадара Нямко. Хай наглядае, слухае і моўчыць у трапачку. *(Рагоча).*

*Юзаф Тадэвуш, Ахмет Ажгірэй-аглы і Янкель Янкелевіч ідуць у свае кватэры. Іван Іванавіч паказвае Янку, каб той прынёс бутэльку. Янка хутка выконвае даручэнне. Іван Іванавіч налівае каньяк у два фужэры і закідвае ногі на стол. Стол занадта высокі і поза дзядзькі Сэма яго не задавальняе. Ён паказвае Тарасу Тарасавічу, каб той прыгнуў Янку да падлогі. Янка разумее, што ад яго хочуць і становіцца "ракам". Іван Іванавіч мае магчымасць пакласці свае ногі на спіну небаракі. Як кампенсацыю за "паслугу", падае яму келіх каньяку, але той адмаўляецца.*

**ІВАН.** Тарас, ты мне друг, но я делаю тебе официальное замечание, как Платону, за недержание речи. Запомни – я это по парламенту знаю, - великое искусство выступить, но удержаться от выступления – еще большее. А ты, понимаешь, заладил как попугай про свою "махвию". Застукал двух наших и адкаша, и у него уже "махвия"! Вот создадим настоящую козаностру из хозсовпартактива, тогда и хвастаться будем. А теперь, как говориться, надо красть железо пока горячо. Во-первых, приватизация завода совсем не исключается, но всякому, как говорится, овощу... Во-вторых, прежде, чем завод приватизировать, его надо отжать как лимон, а точнее, откачать через Янкелеву трубу столько, сколько стоит сам завод и еще немножко. И это будет по Марксу-Энгельсу и рыночному социализму. Таков закон накопления. В-третьих, надо создать банду диллеров, киллеров, броккеров, рокеров, маклеров и прочих рекитиров, которые отмоют спиртовые "зайцы", чтобы их можно было перевести в СКВ и вложить, как минимум, в швейцарский банк. И приватизацию завода надо рассматривать не как самоцель личного обогащения. Спиртзавод – это трамплин в большую политическую жизнь и на Канарские острава, если не в Дрозды. Так я понимаю. Это стартовая площадка, с которой мы должны взлететь на орбиту державы и состыковаться там знаешь с кем?..

**ТАРАС** *(разгублена).* Не...

**ІВАН.** Не... Слепцы, а не мафиозии!.. Слушай сюда внимательно... К очередным президентским выборам мы должны сколотить такую сумму, какой сегодня и нацбанк не имеет, не говоря уже о красных феодалах и черни из БНФ. Мне, как всякому кандидату в президенты, на взятки и подкуп чинодралов потребуются такие куски, какие тебе и во сне не приснятся. А личная гвардия, а охрана, а шпикисексоты?.. А подкуп тутэйшага электората?! Потом техника подслушивания, группа умыкания неугодных и прочее. Но если я стану президентом, а я им рано или поздно стану, ты у меня знаешь кем будешь?

**ТАРАС.** Не...

**ІВАН.** Завхозом всей державы. Сам флаг и герб нарисуешь. Наш. Новый. Бутылка на фоне земного шара в обрамлении колосьев и бульбы с капустой.

**ТАРАС** *(ашаломлена).* О, цэ діло! О, цэ діло! О, цэ голова! Як яцьвягі кажуць. *(Здымае з нагі Івана Іванавіча пантофлю і цалуе яе тройчы).*

**ІВАН.** А ты думал, если Иван, так обязательно дурак?! Если державой управляют конюхи, то почему ею не может управлять директор-секретарь с пожарником?! А подкоги будут. Это уже непременно... На переходном этапе.

**ТАРАС.** А што мы пасля выбараў будзем рабіць з гэным дробным жуллём? Яны ж і закласці можуць, і па машыне стрэльнуць, і любу сцюардэсу з праўдзівай прыдумаць.. Няўдобна будзет...

**ІВАН.** Всякое мелкое жульё изолируем или ликвидируем как класс. *(Б'е нагою пад зад Янку, той адлятае ў бок).* Для алкашэй и психов создадим канцлагеря, нищих выдворим за пределы державы, а ветераны сами вымрут. Демократическая держава не может позволить, чтобы всякие дестабилизирующие элементы расшатывали устои... и крали наше достояние.

*Янка Нямко брыдзе ў сваю кватэру.*

**ТАРАС** *(у захапленні).* Геніяльна!.. От так жывеш па суседству, гуляеш у карты, ганяеш "казла" і думаеш, што он звычайны вахлак-намэнклатура, а он як павернецца да цябе другім задам, то і выходзіць, што он не чым не горшы за цех, што сёння табуном пруць да верцікальнай улады... *(Цалуе Івана Іванавіча ў засос).*

**ІВАН.** Между прочим, ещё Владимир Ильич как-то говорил, что у нас каждая кухарка может стать президентом. А у меня за спиной, как-никак, а кулинарный техникум и два курса ВПШа.

**ТАРАС.** А ўзяць таго ж спікера... Ён, як і я, быў звычайным пажарнікам...

**ІВАН.** Как говорится, есть альтернатива и нет вопросов...

**ТАРАС.** Вопроса, можэт, і няма, но маленькая просьба е...

**ІВАН.** Ну?..

**ТАРАС.** Скажу тобе, як другу: мне не вельмі хочацца заўхозам, хоць сімволіку я табе намалюю і гэную парву... *(Глядзіць на сцяг).* А пасля ўсёроўна турнуць, а то і пасадзяць...

**ІВАН** *(незадаволена).* Очень интересная постановка вопроса после того, как я открылся тебе в самом, можно сказать, сокровенном...

**ТАРАС.** Зразумей міня правільна, но баюся я, што на заўхозавым месце будут з мяне смяяцца, как з недапечанага. У міне, як і ў многіх, белоруська мова не вельмі чыстая... Дажа больш грязная, чым у дыктараў тэлевізіі.

**ІВАН.** Для меня она совсем сабачая и то ничего

**ТАРАС.** І ўсё адно сарамата, як по тэлевізару паказуюць. Інтэлігенцыя рагоча і плюецца... Не можу ж я садзіцца ў першы клас мовы вывучаць. Хопіць і таго, што я вам, маскалям, прадался і сваіх душу... І бясплатна.

**ІВАН.** Так куда же мне тебя?

**ТАРАС.** Як патомнага і карэннага яцьвяга можно було б і на Паліссе гэнерал-губернатарам кінуць... Аўтанамна і незалежна...

**ІВАН.** Так на Полесье же этот ятваг-писака претендует...

**ТАРАС.** А цёму пысаку мы дамо під с... *(Рагоча).* Тым больш, што він не такі чысты яцьвяг, як я. І колы ты маю просьбу падтрымаеш, будзьма мы з тобою, Ваня, сядзець як тыя магнаты княства Літоўскага; ты – як Радзівіл у Мыньську, а я – як Сапэга ў Пыньську.

**ІВАН.** Заметано! Но это дело еще, как говорится, надо переспать... Будь здоров! *(Разварочвае крэсла).*

**ТАРАС** *(камандуе).* Нямко, завязі прэзідэнта да рэзідэнцыі! А потым дап'еш нашы недапіткі.

*Янка-нямко не адклікаецца, тады Тарас Тарасавіч сам штурхае крэсла да дзвярэй Івана Іванавіча, а прыкрыўшы іх, знікае ў сваёй кватэры. З'яўляецца Янка-нямко з вялізным фанерным прапелерам у руках, ставіць яго каля дзвярэй Юзафа і націскае на гузік званка. Дзверы адчыняюцца і прыкрываюць прапелер. На парозе – Юзаф Тадэвуш.*

**ЮЗАФ.** Ну, што табе, "безъязыкое долгошее пресмыкающееся"?

*Янка паказвае на пальцах, як граюць на гармоніку.*

Разумеем... Ты хцэш граць на гармоніцы? Хвілечкэ. *(Знікае і тут жа вяртаецца з гармонікам).* Прэзентую сардэчна, грай вечна. Я ж цяпер, псякрэў, курва іх маць, на іншых струментах папілікаю. *(Аддае гармонік Янку).*

*Янка-нямко адмоўна круціць галавой, не бярэ гармонік, распраўляе рукі як крылы і кружыць па пляцоўцы, бы той самалёт. Юзаф нічога не разумее. Тады Янка-нямко паказвае яму прапелер.*

Разумем. Значыцца, і ты, нябога, злятаеш, як той птах па восені. Ну, ну! Глядзі толькі, не абляднеў у паветры – на зямлі нашай ужо ўсе абледзянелі... хто ад страху, хто ад нахабства.

*Янка-нямко згодна ківае галавою і просіць Юзафа сыграць на гармоніку.*

Разумем. Адходную просіш?

*Янка радасна скуголіць і ківае галавою. Юзаф расцягвае мяхі.*

*Спачатку праігрывае мелодыю, а потым спявае.*

Эх, думаў я, думаў і ўсё перадумаў,
І думаў, і думаў, і думаў быў я.
А як зноў падумаў "дык чым жа я думаў?"
"Эх, лепш бы не думаў" падумаў быў я.

Янка-нямко не задаволены. Ён адмоўна круціць галавой, нават спрабуе напомніць Юзафу нейкую мелодыю.

Ну, што табе – "Летят перелётные птицы"?

*Янка зноў імітуе матыў. Юзаф здагадваецца.*

Разумем, Янка, разумем...

*Мелодыя гармоніка перарастае ў музыку сімфанічнага аркестра. Прастору запаўняе паланэз Агінскага "Развітанне з Айчынай". Янка-нямко спачатку стаіць скамянела і бязгучна плача. Паціху прыадчыняюцца ўсе дзверы пляцоўкі. Гаспадары кватэр у здзіўленні прыслухоўваюцца да мелодыі. Янка-нямко паволі брыдзе да жэрдкі-флагштока, рукі яго паволі падымаюцца ў неба. Звыклае акатанне перарастае спачатку ў сціснуты стогн, а потым – у тужлівы і безнадзейны крык спакутаванай Беларускай Душы. Постаць яго нагадвае вядомы дарэвалюцыйны плакат "Голад". Рукі небаракі намацваюць жэрдку-флагшток, бо ногі больш не трымаюць Чалавека. Ён паволі, пад апошнія акорды паланэза, спаўзае на падлогу і ад бяссілля і роспачы пачынае грызці жэрдку.*

**ЮЗАФ.** Бог пазбавіў тутэйшага мовы, але на пакуту пакінуў яму слых і вочы, *(да суседзяў)*, пра што вы і не здагадваліся...

*Адны за другімі зачыняюцца дзверы на пляцоўцы буйнапанэльнага многакватэрнага дома Рэспублікі Беларусь.*

*Янка-нямко бярэ прапелер і выходзіць.*

**ЗАСЛОНА**

*1994 год.*

**Аляксандр Талерчык**

# ПАРЭЦКІЯ НАСТАЎНІКІ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Наступны раз інспектар Пракаповіч наведаў Парэчча ў сувязі з прыёмкай пабудаванай школы: ***"11 июня 1914 года означенного числа произведен осмотр новопостроенного училищного здания и холодных построек при полном составе строительного комитета (6 душ от крестьян, законоучитель-председатель и учитель) в присутствии Козловского учителя училища О. М. Киселя и Охоновского учителя П. Б. Кульбоцкого, у которых строятся здания Поречского типа, а также учителя Воробьевичского училишча Д. Шепченко и учителя В. Крокотского училища и понятых от крестьян.***

***Здания и холодные постройки училища окончены. Работы произведены согласно утвержденному плану и заключительному с подрядчиком контракту. Найдены мелкие недочеты, которые предложено устранить к 16 июня. Инспектор Прокопович".***

Гэта быў прыгожы драўляны дом на высокім падмурку. Вокны класаў выходзілі на сонечны бок. Школа месцілася на крутым беразе Шчары ў акружэнні саду. За сваю педагагічную і гаспадарскую працу Восіп Кісель 19 студзеня 1915 года быў узнагароджаны срэбным медалём з надпісам "За усердие", з правам нашэння на грудзях на Аляксандраўскай стужцы.

Толькі два выпускі вучняў адбыліся ў новай школе, бо вучэбны працэс быў перарваны першаю сусветнаю вайною. Дзесьці ішла вайна. Але Слонімскі інспектар Пракаповіч наведаў навучальню і пакінуў запіс: ***"29 октября 1914 г. Посетил училище при следующих обстоятельствах времени. Заведующий училищем Анцута призван в действующую армию. Второй учитель Грасевич поступил в учительский институт. Назначенный на его место учитель Ивановский еще к месту службы не явился. Учебные занятия открыл и ведет их откомандированный с 1 сентября с.г. по обстоятельствам военного времени учитель 1-го Гродненского приходского 2-х класного училища С. Жидков, ввиду закрытия учебных занятий в районе Гродненской крепости. Опытный учитель (25 лет на службе) г. Жидков классную работу ведет умело. Учащихся сегодня на лицо 59 из 78 по списку. Осматривал работы по приспособлению старого училища под ремесленное отделение. Работы подвигаются медленно, крыша не докрыта, печки нет, к внутренней отделке не приступили".***

Хутка Беларусь ператварылася ў тэатр ваенных дзеянняў. Тут размесцілася 1,5 мільённая расійская армія. Але ў выніку нямецкага наступлення, якое пачалося 22 ліпеня 1915 г., пазбягаючы акружэння, расійская армія здала Варшаву, Гародню, Берасце. Адступленне рускіх войскаў суправаджалася масавым прымусовым выгнаннем людзей у бежанства на ўсход.

Не хацелася 33-гадоваму Восіпу Мацеевічу пакідаць Казлоўшчыну, дзе яго паважалі, дзе меў добры заробак за сваю сумленную настаўніцкую працу. Яго асноўнае жалаванне ў год складала 660 рублёў, дадатковае – 240 руб., за выслугу даплачвалі – 120 руб. кватэрных выдавалі – 90 руб. і яшчэ за выкладанне ручной працы – 240 руб. Усяго выходзіла 1450 рублёў. За гэтыя грошы ён мог купіць 29 кароў (карова лічылася карміліцай у сялянскай сям'і, таму прынята як грашовы эквівалент). Але ваеннае становішча прымусіла яго разам з жонкаю Вольгаю Аляксандраўнаю (з роду Вагнераў) і дачкою Нінаю падацца ў далёкае і доўгае выгнанне ў глыбіню Расіі. Коней у яго не было, таму ўвесь нажыты скарб ён пакінуў на месцы, аб чым сведчыць наступны акт:

***"По военным обстоятельствам 1915 г. 8 августа. Нижеподписавшиеся вследствии личного предложения учителя Козловского 2-кл. училища Осипа Киселя о составлении описи и оценки принадлежащего ему домашнего имущества, прибыл сего числа в Козловское 2-кл. училище, где в присутствии самого владельца имущества и приглашенных нижеподписавшихся добросовестных оценщиков и свидетелей произвели опись всего движимого имущества, принадлежащего учителю Козловского училища Осипу Киселю при чем все имущество, как видно из нижеследующей описи, оценено на сумму 244 руб. и 50 коп.***

| № наименование предметов. | Количество. | На сумму, руб. |
|---|---|---|
| 1. Кухонная посуда | 17 | 28 |
| 2. Столовая посуда | 43 | 30 |
| 3. Корова | 1 | 50 |
| 4. Кровать | 1 | 4,5 |
| 5. Лампа | 1 | 5 |
| 6. Бочек | 5 | 10 |
| 7. Личная библиотека учителя | 86 томов | 75 |
| 8. Железных лопат | 8 | 4 |
| 9. Картин | 3 | 8 |
| 10. Подушек | 1 | 6 |
| 11. Костюм | 1 | 24 |
| Итого | | 244,5 руб. |

***Всё поименованное имущество учителя О. Киселя, за невозможностью взять его с собой, оставлено в училище. О чем составлен настоящий акт.***

***Козловский волостной Старшина (подпись)***

***Добросовестные оценщики Никита Кондратьев Шишко***

***Антон Анахинарьев Савицкий".***

Перад ад'ездам Восіп Кісель наведаў Жыровічы, развітаўся са сваякамі. Адпраўляўся ў далёкую Расію са Слоніма. Падышоў цягнік. З яго высыпалі маладыя салдаты. Сталі ў шыхт, а потым рушылі ў горад пад бравурную музыку і прызыўныя словы марша: ***"Вставай страна огромная, вставай на смертный бой с германской силой черною, с проклятою ордой!"*** потым гэтую мелодыю, але з крыху зменнымі словамі, ён пачуе праз 25 гадоў, у ваенным 1941 годзе.

Прыстанішчам на выгнанні стала Калужская губерня. Там ён у 1917 годзе скончыў аднагадовыя курсы пры Калужскім настаўніцкім інстытуце і атрымаў званне настаўніка вышэйшай пачатковай навучальні. З 1 кастрычніка 1918 года да 1 красавіка 1921 года працаваў настаўнікам у г. Трубчэўску.

Пасля заканчэння першай сусветнай вайны, згодна з Рыжскай мірнай дамовай у сакавіку 1921 г., усім бежанцам дазвалялася вярнуцца на радзіму. Змучаныя 7-гадовымі бадзяннямі па неабсяжных прасторах Расіі, грамадзянскай вайною, голадам і хваробамі, напалову ацалелыя бежанцы кінуліся стрымгалоў на Бацькаўшчыну. Адным з першых прыехаў Кісель. Яго ўразілі тыя перамены, якія адбыліся на Беларусі.

Немцы, якіх расійцы падавалі "германскай силой черную, проклятою ордой", аказаліся даволі лагоднымі да беларусаў. Яны, у адрозненне ад царскай Расіі, прызналі нацыянальную адметнасць беларусаў і раўнапраўнае існаванне беларускай мовы побач з іншымі. Быў выдадзены загад аб забароне навучання па-руску ў пачатковых школах. Уводзілася абавязковае выкладанне на роднай мове. У імя ажыццяўлення прынцыпу раўнапраўя, беларусам, як і іншым нацыянальнасцям, была дазволена культурная дзейнасць і выданне газет на роднай мове. у 1915 годзе ў Вільні быў створаны "Беларускі камітэт дапамогі ахвярам вайны" пад кіраўніцтвам Антона Луцкевіча. Ва ўмовах нямецкай акупацыі Луцкевіч згуртаваў вакол сябе групу такіх беларускіх дзеячоў, як Францішак Аляхновіч, Алаіза Пашкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Ян Луцкевіч, Вінцэнт Святаполк-Мірскі, Баляслаў Пачобка, Язэп Салавей, ксёндз Уладзіслаў Талочка і іншыя, якія развярнулі вялікую беларускую грамадска-асветніцкую працу. Яны прапагандавалі ідэю незалежнасці літоўска-беларускіх земляў у выглядзе новага Вялікага княства Літоўскага. Асабліва вялікая работа была праведзена па станаўленню беларускага школьніцтва. Камітэт арганізаваў у Вільні настаўніцкія курсы, а 15 кастрычніка 1915 года на акупаванай немцамі тэрыторыі адкрыў першую ў гісторыі і адзіную ў той час беларускую публічную школу. Найвялікшай праблемай беларускага школьніцтва быў недахоп настаўнікаў, бо большасць з іх была мабілізавана, ці, як Кісель, эвакуявана ў Расію. Таму, з дапамогай немцаў, была адкрыта ў Свіслачы першая беларуская настаўніцкая семінарыя. Тут былі падрыхтаваны 144 настаўнікі беларускіх школ. Вялікай падзеяй стала распрацоўка і выданне Браніславам Тарашкевічам "Беларускай Граматыкі". Наладзілі выданне падручнікаў і школьнай літаратуры. Па меры вырашэння настаўніцкіх праблем, расла і колькасць беларускіх школ. Калі ў кастрычніку 1916 года іх было толькі 8, то вясною 1918 г. іх дзейнічала 89, а пад канец нямецкай акупацыі – да 350. У Слонімскім павеце беларускія школы былі ў Мялькавічах, Залацееве, Угрыні, Кракотцы, Рудаўцы, Востраве, Чапялёве, Петралевічах, Вішаве і Савічах.

Вайна змяніла палітычную карту Еўропы. На былых прасторах Расійскай імперыі атрымалі самастойнасць Прыбалтыйскія краіны Эстонія, Латвія і Літва. У змаганні і з вялікімі ахвярамі адваявала незалежнасць Польшча. У сакавіку 1918 года аб'явіла незалежнасць Беларусь, але не здолела яе абараніць. Таму ў 1921 годзе была па жывому разадрана паміж Расіяй і Польшчай. Слонімшчына апынулася пад Польшчай. Расійская акупацыя змянілася польскаю.

Кісель, прыехаўшы з бежанства, звярнуўся да Слонімскай польскай адміністрацыі аб уладкаванні яго настаўнікам. Яму прапанавалі любую з вядомых школ: Казлоўшчынскую ці Парэцкую. Ён пагадзіўся на Парэцкую. Яна была ім пабудавана і знаходзілася бліжэй да яго родных Жыровічаў, дзе ён часова жыў.

Сем гадоў гвалтоўнага выгнання жыхароў у бежанства і прайшоўшы праз Парэчча фронт зрабілі вёску непазнавальнай. Месцамі яна пагарэла, некаторыя хаты зусім згнілі і заваліліся. З 86 дамоў ацалелі толькі 52, але і яны стаялі са згніўшымі стрэхамі, з якіх, як рэбры, тырчалі голыя жардзяныя латы. Падворкі і палі зараслі крапівою і кустамі. У тых хатах, куды вярнуліся сяляне з бежанства, пачало цяпліцца жыццё. Елі шчаўе, крапіву і лебяду. Хадзілі жабраваць у каталіцкія вёскі, бо іх жыхароў сілкам у бежанства не выганялі.

Кісель узрадаваўся, што школьны дом застаўся цэлым, хаця і разрабаваным. Пасаджаны ім сад амаль цалкам быў вынішчаны, на яго месцы цягнуліся паўзасыпаныя акопы. На другім беразе Шчары, па ўскрайку лесу, яшчэ вісела калючая драцяная агарожа, а за ёю таксама былі бачны франтавыя акопы.

Кісель абышоў Парэчча і навакольныя вёскі і выявіў, што дзяцей дашкольнага ўзросту набіраецца не больш паўсотні. Перад вайною іх было звыш 250. Большасць бацькоў не збіраліся аддаваць дзяцей у школу, бо тая галеча, у якой апынуліся, прымушала думаць не аб вучобе, а аб выжыванні. Яны стараліся ўладкаваць іх пастушкамі ды нянькамі ў тыя мясціны, якія менш пацярпелі ад вайны. Ведалі, што дзеці будуць накормлены і заробяць якое-небудзь цяле на развод ці мяшок збожжа для пасеву.

15 лістапада 1921 г. Восіп Мацеевіч з трывогаю ў душы пагадзіўся распачаць тут настаўніцкую працу. Але беды на гэтым не скончыліся. Польшча, якая абяцала нацыянальную аўтаномію Беларусі, адмовілася ад гэтага і ў сваіх інтарэсах пачала праводзіць палітыку паланізацыі краю. Тыя беларускія школы, якія былі адкрыты пры немцах, пачалі зачыняцца ці пераводзіліся на польскую мову навучання. На Слонімшчыне толькі ў 7 са 143 школ беларуская мова выкладалася як прадмет. Навучанне ў Парэцкай школе адразу загадалі весці на польскай мове. Кісялю, як "рускаму" настаўніку, прапанавалі прайсці курсы перавучэння на польскую мову. Амаль цэлы год, з 20 студзеня па 20 снежня 1922 года, ён вучыўся ў Кракаве. Толькі з 15 сакавіка 1923 года яго прызначылі настаўнікам у Парэцкую двухкласную публічную пачатковую школу. Ён разам з вучнямі заклаў гадавальнік, дастаў прышчэпны матэрыял і па-новаму пачаў закладваць сад. Сярод насельніцтва ён карыстаўся вялікай павагай і папулярнасцю. Старэйшыя вясковыя людзі пазней нават адлічвалі час па Кісялю. Калі ў аднаго са старэйшых парэцкіх сялян Якімовіча Аляксея Максімавіча я запытаў пра тое, калі выбіралі ў польскі сейм віцэ-старшыню Слонімскай акруговай управы Таварыства беларускай школы Паўла Крынчыка ці, калі паставілі помнік Валовічу ў Парэччы, то ён першым чынам ўзгадваў, што гэта рабілася пры Кісялі. На пытанне, калі адбываліся наступныя выбары ў польскі сейм, то казаў, што гэта адбывалася ўжо без Кісяля, але пры святарах Хведары Данілюку.

Працаваць у школе было вельмі складана, бо дзеці былі рознага ўзросту. Некаторыя пачыналі толькі вучыцца, а былі і такія, якія ўжо некалькі зімаў хадзілі ў рускую школу. Звычайна заняткі пачыналіся пасля Пакроваў, калі вучні-пастушкі ўжо не ганялі жывёлу на пашу. Канчаліся заняткі на Юр'е, калі аднаўлялася паша. Найбольшаю цяжкасцю было тое, што моваю навучання стала польская, якую сяляне не разумелі. Спроба адразу вучыць па-польску не атрымалася. Сэнс польскіх слоў беларусамі ўспрымаўся зусім па-другому. Тут было больш смеху, чым вучобы. Гэтую моўную недарэчнасць высмейваў сатырычны часопіс "Маланка", які карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод заходніх беларусаў. Мне запомніўся верш на гэтую тэму, які быў там надрукаваны і называўся **"Пагаварылі"**:

***"Аднойчы гной у поле вёз Ян,***
***Сустрэў яго ў дарозе пан***
***І запытаў: "То яка весь?"***
*(па-польску: "Гэта якая вёска?" – А.Т.)*
***"Не, - кажа Ян,***
***- яшчэ не ўвесь".***
***"А пшэз ту жэку***
***можна пшэйсьць?"***
*("А праз тую рэчку можна перайсці?" –А. Т.)*
***"Не, - кажа, -***
***не будзе шэсць,***
***Бо ўнас з гноем цяпер бяда,***
***Ну, можа будзе вазкоў два".***

Тыя людзі, якія вучыліся ў Кісяля, расказвалі, як ён праводзіў заняткі. Калі рашалі задачу, то Кісель спачатку чытаў яе па-польску, потым тлумачыў сэнс на "тутэйшай" беларускай мове, і пасля гэтага вучні яе рашалі. Пытанні па рашэнні задачы вучні спачатку фармулявалі па-беларуску, а потым разам з настаўнікам пераводзілі на польскую мову. Вучоба ішла марудна, матэрыял засвойваўся з вялікімі цяжкасцямі. Паступіць дзецям вучыцца ў іншыя навучальныя ўстановы было вельмі складана, бо веды былі слабыя. Былі выпадкі, калі слабейшыя вучні сядзелі ў адным класе па некалькі гадоў ці нават кідалі школу. Па польскіх законах за ненаведванне дзіцём школы на бацькоў накладвалі значны штраф. Але дзеці з задавальненнем працавалі на прышкольным участку, бо тут ім было ўсё зразумела і цікава.

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Насуперак*

# Беларускі рок-культурны фэномен у несвабодным грамадстве

Беларуская рок-музыка – адзін з кірункаў сучаснай музычнай творчасці, які мае рэальны ўплыў на маладое пакаленне беларусаў, вылучае са свайго асяродку культавыя з'явы і асобы, мае тэндэнцыю да пашырэння і самаразвіцця.

Унікальным з'яўляецца тое, што развіваецца беларускамоўная рок-музыка ў Беларусі пры поўным ігнараванні яе праблем і дасягненняў дзяржаўнымі сродкамі інфармацыі — тэлебачаннем, FM-радыёстанцыямі, стваральнікамі "беларускага" кіно, прадзюсарамі філарманічных канцэртаў і фэстаў. Можна гаварыць нават пра "чорныя спісы" беларускамоўных рок-выканаўцаў, непажаданых для трансляцыі ў радыё і тэлеэфіры па палітычных матывах.

Але насуперак гэтай блакадзе беларускамоўная рок-музыка знаходзіць свайго зацікаўленага слухача і спажыўца, даносіць сваё важкае слова да маладых беларусаў праз незалежную сетку распаўсюджвання касет і кампакт-дыскаў, якая ствараецца ў Беларусі, праз працу ў маладзёвых асяродках беларускамоўных (ці блізкіх па духу і мэтах) гуказапісвальных фірм – лэйблаў. Гэтаму спрыяюць рэкламныя кампаніі ў друкаваных сродках масавай інфармацыі, на якіх яшчэ не распаўсюджваецца забарона інфармавання пра навінкі беларускамоўнага музычнага прадукту – дыскаў і канцэртаў выканаўцаў, якія ў сваёй творчасці арыентуюцца на родную мову.

Чаму гэтая праца здаецца такой важнай, асабліва калі яна тычыцца беларускамоўных выканаўцаў? Беларуская мова адыгрывае вырашальную ролю ў фармаванні музычных і стылістычных асаблівасцяў усяго айчыннага рок-руху. Эмпірычным доказам слушнасці такога сцверджання можа служыць прыклад выканаўцаў з Венгрыі, з Польшчы і Чэхіі, дзе ўзніклі нацыянальныя плыні рок-музыкі пасля таго, як родная мова стала дамінаваць у творчасці большасці роккалектываў гэтых краін.

Музычныя крытыкі і даследчыкі з розных краін (у тым ліку і беларускія – музыкалог Паўліна Сурвіла, якая ў Мічыганскім універсітэце абараніла доктарскую дэсертацыю, дзе разглядала сувязі беларускага фальклору і музычнай творчасці айчынных рок-музыкаў) сыходзяцца ў агульнай выснове: арыгінальнасць музыкі і кампазіцыйнай пабудовы лепшых рок-твораў ў розных краінах выкрышталізавалася, у немалой ступені, і пад уздзеяннем фанетычных асаблівасцяў моў гэтых краін, праз выкарыстанне элементаў фальклёру ў іх музыцы і кампазіцыі.

У Беларусі склалася драматычная сітуацыя – увесь рынак папулярнай музычнай індустрыі аддадзены пад уплыў суседскай дзяржавы. Гастрольныя туры рознага кшталту скандальных і безгалоса-фанаграмных "зорак" ў Беларусі нагадваюць бясконцы канвейер. Без дзяржаўнай падтрымкі такога "попс-патопу", безумоўна, не абходзіцца: афіцыйнае радыё і тэлебачанне навыперадкі "накручваюць" рэкламную істэрыю, цаной добра аплочаных ілжывых адзнак і перабольшвання мастацкай вартасці "гастралёраў" ствараюць штучную зацікаўленасць і напаўняльнасць залаў.

Гэта наносіць непапраўную шкоду, як з пункту гледжання фармавання маладой асобы – будучага грамадзяніна Беларусі, так і з фінансавага – каласальныя грошы з нашай краіны інвестуюцца ў эканоміку і культуру суседняй Расіі...У такіх умовах развіццё беларускамоўнага рок-руху, шоу-бізнесу ёсць супрацьвага наскрозь камерцыялізаванай расейскай "папсе", якая апанавала эфір, канцэртныя пляцоўкі гарадоў Беларусі, як і іншых краін СНД.

Але ў тутэйшых умовах, калі беларускае слова і яе носьбіты падвяргаюцца нечувальным уціску і рэпрэсіям, пры амаль поўнай адсутнасці нацыянальнай адукацыі беларускамоўны рок-рух бярэ на сябе акрамя контрпрапагандысцкіх (перапрашаю за састарэлую тэрміналогію) і асветніцкія функцыі. Таму, што тэксты любімых гуртоў – гэта і ёсць для маладых беларусаў першы ўрок роднай мовы, гісторыі, граматазнаўства, паліталогіі і самае галоўнае і непрымальнае для сённяшняй улады – беларускага патрыятызму!

Патрыятычныя пачуцці, як супрацьвага халопскаму пакланенню перад расейскай "папсой", прымушаюць маладых слухачоў аддаваць перавагу беларускім дыскам і касетам, наведваць канцэрты беларускамоўных рок-гуртоў і выканаўцаў, па-новаму зірнуць на багатую фальклорную спадчыну нашага народа, больш пільна ўзірацца ў палітычнае становішча краіны і ўдзельнічаць у апазіцыйным маладзёвым руху.

Таму беларускамоўныя калектывы пастаянна запрашаюць выступаць на палітычных акцыях апазіцыі, а лепшыя дыскі і касеты, запісаныя гэтымі гуртамі, становяцца настольнымі сярод палітызаванай часткі беларускай моладзі.

Працэс пашырэння слухацкай аўдыторыі, а з ёй і моладзёвага крыла апазіцыі, мае ўстойлівы характар і дынаміку, што не можа падабацца ўладам, падкантрольным ім электронным СМІ: беларускамоўны рок стаўся непажаданым і на радыё, і на тэлебачанні. Кампазіцыі айчынных зорак року выкарыстоўваюцца толькі ў тым выпадку, калі трэба прыцягнуць увагу маладых слухачоў, скажам, да выбараў пад час байкоту (канцэртныя запісы гурта "NRM" на БТ), ці для стварэння агідных заказных пасквіляў з мэтай дасягнення імгненнага палітычнага эфекту (правакацыйны псеўда-кліп гурта "Безь білета"). Таму выканаўцы, якія ў сваёй творчасці арыентуюцца на родную мову, і складаюць касцяк той з'явы, якая ва ўсім свеце называецца андэргаўндам ("культурным падзямеллем", субкультурай ).

Законы андэргаўнда вядуць прагрэсіўных беларускіх рок-выканаўцаў да агульнанацыянальнай вядомасці і культавасці. Гэтыя якасці беларускаму андэргаўнду дапамагаюць набываць неўклюдыя дзеянні і інфармацыйная блакада, якую імкнуцца ствараць улады вакол гэтай культурнай з'явы – беларускамоўнай рок-музыкі.

Беларускі рок-рух сёння падзелены па моўнай прыкмеце (беларускамоўны, англамоўны, рускамоўны ). Ядро беларускамоўнай плыні складаюць гранды і пачынальнікі айчыннага рок-руху: гурты "Крама", "Уліс", "Палац", "NRM"... Удзельнікі гэтых калектываў не толькі ў сваіх песнях, але і паўсядзённым жыцці карыстаюцца роднай мовай. А гэта і ёсць самы перакана'учы прыклад для іншых выканаўцаў і для слухачоў.

Іншую пазіцыю займаюць удзельнікі некаторых гуртоў, якія з-за кан'юнктурнага разліку звяртаюцца да роднай мовы ( напрыклад, з мэтай патрапіць на фэст "Басовішча" ці на складанку "Вольныя танцы"). Але часта бывае так, што і гэтыя недабрасумленныя памкненні з'яўляюцца штуршком для больш актыўнага і асэнсаванага падыходу да стварэння беларускамоўных тэкстаў, да эксперыментаў па сінтэзу фанетычных і мелодыкі роднай мовы і рок-аранжыровак. Бачна, творчы шлях і такіх калектываў – прыклад таго, куды рухацца ў творчасці, калі той ці іншы гурт напаткаў крызіс. Хоць, канешне, асэнсаваны выбар на карысць роднай мовы больш пажаданы і плённы!

Усё часцей у рэпертуары папулярных расейскамоўных і англамоўных гуртоў з'яўляюцца беларускамоўныя кампазіцыі (як у гурта "Нейра Дзюбель"), ці творы прысвечаныя Беларусі, палітычнай сітуацыі ў краіне (як у гурта "Gods Tower"). Такія зрухі ў свядомасці выканаўцаў трэба ўспрымаць як праявы зародкаў беларускага патрыятызму, якія трэба падтрымліваць ды адносіцца да іх з разуменнем. Слухачы ж родную мову, тэму лёсу Беларусі ўспрымаюць натуральна, прыхільна, але, канешне, усё залежыць ад саміх выканаўцаў. Патрыятычная тэматыка і беларускамоўны тэкст не выратуюць тое, ў што не укладзена душа і талент.

Негледзячы на стылёвую разнастайнасць беларускамоўнага рока-руху, яго гурты складаюць дзве буйныя плыні – фольк-мадэрн (апрацоўкі беларускіх народных песень) і калектывы, якія самі ствараюць свой рэпертуар.

Першая плынь, якая бярэ свае вытокі ад "Песняроў", імкнецца сінтэзаваць сучасныя рок-плыні (індастрыел, хард-рок, экстрым, хардкор, электронныя кампазіцыі) з беларускімі народнымі мелодыямі ( "Тройца", "Юр'я", "Зьніч", "Post-scriptum"...) Удзельнікі гэтых калектываў шмат бываюць у фальклёрных экспедыцыях, дзе запісваюць рэдкія народныя песні, абрады, збіраюць іншыя нацыянальныя культурныя артэфакты, апрацоўваюць іх, запісваюць на магнітафонную стужку, пераносяць унікальны скарб беларусаў на "вечныя" лічбавыя носьбіты, выконваюць іх на канцэртах, папулярызуюць іх сярод айчынных і замежных слухачоў.

Іншыя ж выканаўцы самі прэтэндуюць на ролю стваральнікаў сучаснага беларускага фальклёру: адгукаюцца на актуаліі і маральныя праблемы сённяшніх нашых рэаліяў, звяртаюцца да вечных тэм, прапануюць свае адказы і інтэрпрэтацыі іх...Увогуле, шмат робяць для таго, каб беларускі слухач успрымаў айчынны рок-рух, як арганічную частку сённяшняй культурнай спадчыны Беларусі, ў якой ёсць месца традыцыям і сучаснасці, а галоўнае – месца нацыянальнаму скарбу нашага народа – беларускай мове, якая, відавочна, вельмі арганічна стасуецца з сучаснымі рытмамі разнастайных музычных плыняў. Як і належыць мове еўрапейскага народа !

**Анатоль Мяльгуй.**

*(Паводле лекцыі "Беларуская мова, як інструмент стылістычнай адметнасці беларускай рок-музыкі", па невысветленых матывах адрынутай "Беларускім калегіюмам").*



***На архіўным фота: першыя электра-гітары Барысаўскай фабрыкі піяніна. Магчыма, з іх і пачынаўся фэномен беларускага року.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 12. 11. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2541.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 80 руб.